# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 29 (2275) 16 ліпеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.)


## *БЕЛАРУСЬ АДЗНАЧЫЛА 110-годдзе З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ КУПАЛЫ*

**Янка КУПАЛА**

### СВАЙМУ НАРОДУ

**Паўстань, народ!**
**Для будучыні шчасце**

**Ты строй, каб пут**
**не строіў больш сусед;**

**Не дайся ў гэты**
**грозны час прапасці, —**

**Прапашчых не пацешыць**
**шчасцем свет.**

**Сваю магутнасць**
**пакажы ты свету,**

**Свой край, сябе**
**ў пашане мець прымусь.**

**Паўстань, народ!...**
**З крыві і слёз кліч гэты...**

**Цябе чакае маці-Беларусь!**

*1918 г.*



**Шырока прайшло ў нашай рэспубліцы святкаванне 110-й гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы. Урачыста, шматлюдна адшумела яно ў Вязынцы.**

**(Заканчэнне фотарэпартажу змешчана на 6-й стар.).**

## ХТО АБАРОНІЦЬ ЗАМЕЖНАГА СУАЙЧЫННІКА?

# ПАСЫНКІ

**Амаль што ва ўсіх краінах СНД нарастае і кіпіць, шукаючы выйсце, сацыяльнае напружанне, адбываецца эканамічнае, палітычнае і канфесійнае расслаенне народа. У «гарачых» кропках Закаўказзя і Малдовы, дзе жывуць і беларусы, працягам такога пошуку выйсця, на вялікі жаль і смутак, становяцца грамадзянскія і міжэтнічныя войны. Адным з такіх рэгіёнаў паўстае да нядаўняга часу спакойны Таджыкістан, адкуль, як і з іншых месцаў, рухаецца вялікая плынь бежанцаў. Адзін з яе струменьчыкаў — беларусы.**

**З гэтай рэспублікі і прыехаў у Мінск пасланец ад нашых суайчыннікаў з Душанбе Андрэй Сарокін. Размова з ім у рэдакцыі «Голасу Радзімы», а таксама з іншымі землякамі замежжа, іх лісты і запыты навялі нас на думку больш пільна прыгледзецца да новай сітуацыі, якая складваецца ў «бліжнім» замежжы, у асобных краінах «дальняга». І асабліва да такой з'явы, як бежанства. Некаторыя аспекты гэтай складанай, неадназначнай, заблытанай сітуацыі і сталі тэмай артыкула.**

### БЕЖАНЦЫ З ТАДЖЫКІСТАНА

Тэрыторыя рэспублікі заселена прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей: таджыкамі, узбекамі, кіргізамі, асецінамі. Па перапісу 1989 года на 5,5 мільёна ўсіх жыхароў прыйшлося 388 тысяч славян: рускіх, украінцаў, беларусаў, якія абагульняюцца назвай «рускамоўныя». Выхадцаў з Беларусі налічваецца 7—10 тысяч. Прыязджалі яны сюды пераважна як спецыялісты. Хоць можна знайсці і тых, каго вывезлі ў перыяд сталінскіх рэпрэсій, альбо каго перанеслі абставіны апошняй сусветнай вайны. Жывуць у гарадах Душанбе, Худжанд, Чкалаўск, Нурэк. Менавіта ў апошнім, на верхняй пляцоўцы 300-метровай плаціны буйнейшай у Сярэдняй Азіі гідраэлектрастанцыі, узняты на пастамент жодзінскі БелАЗ, які, як пісалася не так даўно, «лепш за любыя словы пераконваў у рэальнасці такіх паняццяў, як дружба, узаемадапамога, супрацоўніцтва».

...Першае полымя канфлікту з усімі адмецінамі грамадзянскай вайны (мітынгаванне перад будынкам Цэнтральнага Камітэта Кампартыі, сутычкі, ахвяры, непрыязнасць да «іншародцаў») — разгарэлася ў лютым 1990 года ў Душанбе. Другое — у верасні 1991-га; яго вынікам стаў двухтыднёвы бесперапынны мітынг на плошчы «Шахідон», пагромы, насілле, ахвяры. Трэцяе шуганула ў сталіцы сёлетняй вясной, калі апазіцыя штурмавала Камітэт нацыянальнай бяспекі: гінулі людзі і на вуліцу, каб развесці бакі, былі выведзены танкі СНД.

Мяркуючы па высновах аналітыкаў, бікфордавым шнурам да грымучай сумесі проціборства ў рэспубліцы служыць рода-племянная, кланава-рэгіянальная варожасць. Напрыклад, Худжандская, адкуль паходзілі, як правіла, першыя сакратары Кампартыі Таджыкістана, і Кулябская вобласці — супрацьпамірцаў. А састаўныя часткі самой сумесі добра вядомыя: сацыяльныя, эканамічныя, экалагічныя язвы, уласцівыя ранейшаму ладу, нізкі ўзровень жыцця. На май месяц сярэдні заробак тут быў 700 рублёў, кошт аднаго кілаграма ялавічыны — 50—60, цукру—88.

У часіну наймацнейшага разгару таго канфлікту, пакуль палітыкі балансавалі на мяжы паміж дапушчальным і катастрафічным, славянскія насельнікі сталіцы Таджыкістана пачалі ствараць атрады самаабароны. Узброеныя, хто чым, людзі неслі дзяжурства ў дварах і пад'ездах, суткамі знаходзіліся ў «баявой» гатоўнасці. Да такіх дзеянняў прымушаў і трагічны ўрок Баку, Ферганы, Сумгаіта, дзе пагромшчыкі арудавалі бесперашкодна. Але страшна ўявіць, не тут гаворачы, што магло б здарыцца, пайдзі сценка на сценку...

Драматызм падзей, небяспека жыццю, лавіна ўсемагчымых чутак і паніка падказалі паратунак — выехаць. Першы выбух бежанства адбыўся ў 1989-м годзе пасля прыняцця ў Таджыкістане закона аб дзяржаўнай мове.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

## АНОНС

**У друкарні набіраецца другая з сёлетніх кніжак «Бібліятэчкі газеты «Голас Радзімы» — нарыс пра Мінск сярэдзіны XIX стагоддзя. Аўтар яго — наш славуты суайчыннік Уладзіслаў СЫРАКОМЛЯ. Гісторыка-краязнаўчы нарыс «Мінск» упершыню перакладзены з польскай мовы на беларускую пісьменніцай Хрысцінай ЛЯЛЬКО.**

**Спадзяёмся, што к канцу года нашы чытачы ўжо будуць кніжку трымаць у руках, а пакуль перакладчыца і рэдакцыя прапануюць некалькі раздзелаў з яе.**

**Стар. 5.**

МІЛІЦЭЙСКАЯ АКАДЭМІЯ




Адбыўся першы выпуск Акадэміі міліцыі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь. Ва ўрачыстай абстаноўцы на плошчы Перамогі беларускай сталіцы выпускнікам былі ўручаны дыпломы юрыстаў і прысвоены званні лейтэнантаў. У гэтым годзе Акадэмію міліцыі закончылі прадстаўнікі 18 нацыянальнасцей былога Саюза.

НА ЗДЫМКУ: выпускнікі Акадэміі з кіраўнікамі рэспублікі і выкладчыкамі Акадэміі на плошчы Перамогі.

КАМУ ШАНЦУЕ

## БЯЗДОМНЫЯ ПАСОЛЬСТВЫ

Рэспубліка Беларусь, узнікшая як незалежная дзяржава пасля распаду СССР і якая робіць цяпер свае першыя крокі, добра забяспечана ядзернымі ракетамі, — піша «Вашынгтон пост». — Аднак дзяржава зведвае недахоп сталоў і крэслаў, каб абсталяваць сваё новае пасольства ў ЗША, размешчанае ў памяшканні памерам з двухпакаёвую кватэру. На шчасце, новы домаўладальнік прадаставіў ім некалькі прадметаў абстаноўкі.

Прадстаўнікі Украіны таксама зведваюць радасць з прычыны ўсялення ў новае памяшканне, размешчанае ў будынку, дзе знаходзяцца канторы розных фірм, якраз над магазінам адзення «Браты Брукс». Да гэтага прадстаўніцтва Украіны на працягу некалькіх месяцаў знаходзілася ў вашынгтонскім офісе арганізацыі «Юнайтэд Сайкіэтрык груп». Тым не менш Украіна, Беларусь і Арменія — гэта шчаслівўчыкі, якім удалося знайсці памяшканні, дзе іх прадстаўнікі могуць павесіць свае капелюшы на цвік. Большасць з іншых 11 краін, уключаючы Азербайджан, Кыргызстан, Туркменістан і Малдову, што абвясцілі незалежнасць пасля распаду СССР, па-ранейшаму туляцца ў былым савецкім пасольстве на 16-й вуліцы, якое перайшло ва ўласнасць Расіі, або дзеляць між сабой памяшканні паблізу штаб-кватэры ААН у Нью-Йорку, паведамляе «Вашынгтон пост».

РАШЭННІ ЎРАДА

## ВАЛЮТА ДЛЯ ЗДАРОЎЯ

Для таго, каб паскорыць стварэнне ў Мінску цэнтра па перасадцы касцявога мозгу на базе клінічнай бальніцы № 9 і забяспечыць лячэбна-прафілактычныя ўстановы медыкаментамі і медыцынскім абсталяваннем, Савет Міністраў сваёй пастановай дазволіў Наваполацкаму вытворчаму аб'яднанню «Нафтан» рэалізаваць у гэтым годзе на замежным рынку нафтапрадукты, што выпрацоўваюцца з пастаўляемай звыш квоты з-за межаў рэспублікі нафты, на суму 3 мільёны долараў ЗША. Валютную выручку ў суме 1,5 мільёна долараў вырашана накіраваць на спецыяльны банкаўскі рахунак у ФРГ для фінансавання будаўніцтва цэнтра, а яшчэ 1 мільён долараў — на набыццё медыкаментаў і медыцынскага абсталявання.

## ПЕНСІІ — ЭМІГРАНТАМ

Урад вызначыў парадак пераводу пенсій грамадзянам, якія выехалі за мяжу. Устаноўлена, што з 1 ліпеня 1992 года пенсіі, назначаныя ў выніку працоўнага калецтва ці прафесійнага захворвання, а таксама пенсіі, што падлягаюць пераводу за мяжу ў адпаведнасці з беларускім заканадаўствам ці пагадненнямі аб сацыяльным забеспячэнні, заключанымі з іншымі краінамі, пераводзяцца Пенсійным фондам. Яму дазволена набываць у 1992 годзе за кошт уласнага бюджэту ў Дзяржаўным валютным фондзе па курсу, што прымяняецца для пакупкі замежнай валюты, у гэты фонд валютныя сродкі, неабходныя для пераводу пенсій грамадзянам, якія выехалі з Беларусі ў іншыя дзяржавы. Пенсійнаму фонду, Міністэрству сацыяльнага забеспячэння сумесна з Міністэрствам замежных спраў і Нацыянальным банкам даручана вызначыць парадак выплаты пенсій грамадзянам, якія выехалі з рэспублікі на пастаяннае жыхарства за мяжу, а таксама пенсіянерам іншых дзяржаў, якія пражываюць у Беларусі.

СУМЕСНАЕ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

## ТОЛЬКІ АДЗІН ПРАЦЭНТ

У Беларусі зарэгістравана 447 сумесных прадпрыемстваў (СП), аб'ём вытворчасці якіх за мінулы год склаў амаль 900 мільёнаў рублёў. Апошняя лічба здаецца велізарнай, аднак гэта толькі 1 працэнт у валавым аб'ёме выробленай у рэспубліцы прадукцыі. У той жа час з 447 зарэгістраваных рэальна працуюць толькі 115 СП, гэта значыць амаль кожнае трэцяе, ці 29 працэнтаў. У Расіі на Украіне гэты паказчык значна ніжэйшы —15—20 працэнтаў. Прыкладна 30 працэнтаў сваёй прадукцыі сумесныя прадпрыемствы Беларусі адпраўляюць на экспарт. Гэта ў долевых адносінах значна вышэй экспартнага патэнцыялу дзяржаўнага сектара эканомікі, што сведчыць аб даволі высокай канкурэнтаздольнасці прадукцыі СП на сусветным рынку.

САЦЫЯЛАГІЧНЫЯ АПЫТАННІ

## НЕ ДЗЕЛЯ ІСЦІНЫ

Кіраўнік Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітчных даследаванняў Алег Манаеў абвінаваціў у нядобрасумленнасці і тэндэнцыйнасці паліграфічную кампанію «Эрыдан», пры дапамозе якой група сацыёлагаў БДУ правяла даследаванне: «Сучасная палітычная сітуацыя: ваша думка». У прыватнасці, гэта датычыцца і беларускай мовы. Апытаўшы ў паўтара раза больш рускіх жыхароў рэспублікі і, адпаведна, на 10 працэнтаў менш беларусаў, аўтары даследавання спакойна робяць высноў: «Тры чвэрці насельніцтва выступаюць за тое, каб дзяржаўнай мовай Беларусі былі беларуская і руская...»

ЗЛАЧЫННАСЦЬ

## 100 000 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ

Нядаўна беларускую грамадскасць узрушылі паведамленні аб зверскіх забойствах у Мінску двух дзяцей Андрэя Ш. і Алены Б. Да расследавання гэтых цяжкіх злачынстваў прыцягнуты лепшыя сілы службаў аховы парадку. Аднак пакуль забойца-маньяк (ці забойцы?) усё яшчэ ходзіць на волі.

Па распараджэнню Старшыні Савета Міністраў Беларусі Вячаслава Кебіча ўрад рэспублікі ўстанавіў узнагароджанне ў размеры 100 000 рублёў, якія будуць выплачаны грамадзянам за садзейнічанне ў раскрыцці гэтых злачынстваў. Ход следства ўзяты пад асобы кантроль Савета Міністраў і кіраўніка ўрада Беларусі.

БУДУЕМ КАСЦЁЛЫ

## ПЕРШЫ Ў СВЕЦЕ

Першы камень у фундамент будучага касцёла закладзены ў Мастах. Адбылося таксама асвячэнне месца пад храм, які атрымае назву Маці Божай тройчы цудатворнай.

Ва ўрачыстасцях удзельнічалі епіскап Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, прадстаўнікі мясцовых органаў улады, духавенства з Ватыкана і Германіі, тысячы веруючых. Да прысутных звярнуўся архіепіскап з Масквы Тадэвуш Кандрусевіч. З пачаткам будаўніцтва храма — дарэчы, першага ў свеце пад такой назвай — католікаў павіншавалі прадстаўнікі праваслаўнай царквы.

ГІМН БЕЛАРУСІ

## ТРЭЦІ ТУР — У ВЕРАСНІ

Працягваецца конкурс музычных твораў, якія прэтэндуюць на права называцца дзяржаўным гімнам Беларусі. Пасля двух адборачных праслухоўванняў з больш чым 40 варыянтаў было пакінута 7. Кампетэнтнаму журы на чале з паэтам Нілам Гілевічам трэба будзе выбраць адзін. У складзе журы з 22 чалавек — беларускія кампазітары Генрых Вагнер і Дзмітрый Смольскі, паэты Рыгор Барадулін і Анатоль Вярцінскі, дырыжоры, прадстаўнікі Міністэрства культуры і Дзяржтэлерадыё Рэспублікі Беларусь.

— Каб пазбегнуць якой бы там ні было кулуарнай барацьбы са зборам подпісаў, калектыўнымі пісьмамі і іншым, — гаворыць член журы музычны рэдактар упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры рэспублікі Эльвіра Алейнікава, — аўтарства твораў нашых сучаснікаў зашыфравана рознымі дэвізамі. Да трэцяга праслухоўвання дайшлі «Фартуна», «3-і варыянт», «А хто там ідзе?» і «Белая вежа».

Праз 8 месяцаў пасля склікання журы права водгуку на варыянты гімнаў атрымалі, нарэшце, і жыхары рэспублікі. На думку арганізатараў конкурсу, пісьмы на Дзяржтэлерадыё і ва ўпраўленне мастацтваў, як і плануемае сацыялагічным цэнтрам пры БДУ апытанне жыхароў Мінска, дапамогуць выбраць музыку.

У трэцім туры журы праслухае, відаць, толькі фанаграмы адабраных варыянтаў у выкананні Дзяржаўнага камернага хору. Ці стане ён апошнім? Гэта высветліцца ў верасні.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Народныя дэпутаты З. Пазьняк і Л. Баршчэўскі распрацавалі праект урадавай пастановы, паводле якой да канца года павінны быць завершаны гукавое і зрокавае афармленне грамадскага жыцця рэспублікі. Абвесткі прыпынкаў у транспарце, аб'явы на вакзалах павінны гучаць па-беларуску, шыльды на дзяржаўных установах будуць напісаны таксама па-беларуску.

● Больш за 10 тысяч генералаў, афіцэраў і прапаршчыкаў — выхадцаў з Беларусі, што праходзяць цяпер службу за яе межамі, накіравалі ва ўпраўленне кадраў Міністэрства абароны РБ рапарты з просьбай прадаставіць ім магчымасць вярнуцца на Радзіму і знайсці пасады ва Узброеных Сілах рэспублікі.

Усяго за межамі Беларусі служыць больш за 45 тысяч грамадзян рэспублікі.

● Прэзідэнт Фінляндыі Маўна Койвіста пасля візіту на Беларусь стварыў пры сваім урадзе спецыяльную рабочую групу, задача якой — наладжванне эканамічнага супрацоўніцтва з Беларуссю. Дарэчы, група паралельна будзе займацца і дзелавымі кантактамі з Украінай.

● У Латвіі створана асацыяцыя дзелавога супрацоўніцтва «Беларускі шлях», яе заснавалі прадпрымальнікі-беларусы. Асацыяцыя мае намер каардынаваць вытворча-эканамічную дзейнасць арганізацый і фірм, якія ўзначальваюць нашы суайчыннікі. Сёлета ж павінен адчыніцца Беларускі гандлёвы дом і свой банк пры ім.

● Распараджэннем урада рэспублікі Беларускаму дзяржаўнаму навукова-даследчаму геалагічнаму прадпрыемству «Белгеа» выдзелена 3,3 мільёна рублёў для правядзення рэкагнасцыровачных работ для пошуку і ацэнкі наяўнасці золата ў раёне Оршы.

● Каля 2 тысяч выпускнікоў 9-х класаў школ Мінска сёлета не будуць мець магчымасці ўладкавацца на працу, паступіць у прафесійна-тэхнічнае вучылішча і нават працягваць вучобу ў школе. Але і 2 тысячы выпускнікоў 11-х класаў сталічных школ таксама застануцца без працы, без перспектыў набыць прафесійную адукацыю ці паступіць у ВНУ.

● У паяздах Беларускай чыгункі штодня адбываецца 3—4 крадзяжы. З пачатку года ад пасажыраў паступіла каля 250 заяў аб прапажах у органы міліцыі. Кожны год лічба крадзяжоў на чыгуначным транспарце павялічваецца на 6—7 працэнтаў.

СУПРАЦОЎНІЦТВА



З дзелавым візітам у Мінску пабываў прэзідэнт праўлення заводаў фірмы «Фольксваген верк» Даніэль Гедэвер. У час перагавораў было заключана папярэдняе пагадненне аб адкрыцці ў Мінску прадстаўніцтва фірмы, якая будзе займацца збытам аўтамабіляў «Фольксваген» і «Аўдзі».

У сумесных планах не толькі продаж, але і будаўніцтва аўтасалона, рамонтных майстэрань, офіса з прыцягненнем спецыялістаў з Беларусі.

Даніэль Гедэвер займаецца таксама дабрачыннасцю. Ён пералічыў на будаўніцтва гематалагічнага цэнтра ў Мінску 2,5 мільёна нямецкіх марак.

НА ЗДЫМКУ: у час наведвання Мінскага аўтамабільнага завода Даніэль ГЕДЭВЕР (у цэнтры).

## II З'ЕЗД БЕЗЗЯМЕЛЬНЫХ СЯЛЯН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# КУПІЦЬ ЗЯМЛЮ, ПРЫДБАЦЬ СВОЙ КУТ...

II з'езд беззямельных сялян, што прайшоў у сярэдзіне чэрвеня, выклікаў у староннята назіральніка многа пытанняў і шэраг заўваг.

Пачнем з таго, што гэта мерапрыемства адбывалася ў вельмі няўдалы час. Менавіта тады, калі кожны селянін даражыць цёплым надвор'ем —пачаў касавіцу, вядзе праполку агародаў. А што такое спрыяльныя кліматычныя ўмовы ў Беларусі, казаць нікому не трэба. І нярэдка ў выступленнях дэлегатаў гучалі словы прабачэння за сваіх таварышаў, якія з-за недахопу часу не змаглі прыехаць у Мінск.

Была спроба і нейкай імправізацыі, і непрыкрытай тэндэнцыйнасці ці крайнасці. Дэлегатка ці дэлегат у адзенні, як мы кажам, дарэвалюцыйнага перыяду, здаваліся персанажамі са спектакля.

Што ж тычыцца тэндэнцыйнасці, то тут варта ўспомніць тыя апладысменты, якімі сустракалі некаторыя дэлегаты асобныя выступленні, дзе гучалі патрабаванні неадкладнай ліквідацыі калгасаў і саўгасаў, або раздаваліся незадаволеныя рэплікі з месцаў, калі размова ішла аб захаванні калектыўных гаспадарак на пэўны перыяд. Асабліва бурна рэагавала частка дэлегатаў, калі называліся кіраўнікі калектыўных гаспадарак, якія раней насілі партыйныя білеты.

Не магло не здзівіць таксама, што на з'езд не прыбылі прадстаўнікі ўрада рэспублікі, хаця іх чакалі.

З'езд сялянскі, але на яго можна было б запрасіць і гараджан. Бо праблема зямлі хвалюе сёння ўсіх. Як набыць некалькі сотак пад дачныя ўчасткі? А то і больш сур'ёзная: як вярнуцца з горада ў вёску, каб заняцца фермерствам. А саміх умоў атрымання зямлі гараджанін не ведае, як і не ведае шляхоў, з чаго пачынаць гаспадарыць, куды звярнуцца за дапамогай: узяць крэдыт, набыць тэхніку і г.д.

Але самую галоўную заўвагу, мне здаецца, можна было б зрабіць наконт назвы з'езда. Чаму з'езд беззямельных сялян? Колькі ні гутарыў з дэлегатамі, колькі ні ўслухоўваўся ў іх выступленні, ні разу не пачуў: «У мяне няма ніводнай соткі зямлі. Я беззямельны...» Ва ўсякім разе «законныя» свае соткі, а то і некалькі гектараў яны маюць. І ніхто з іх не парабкуе, не наймаецца на работу дзеля кавалка хлеба, а жыве са сваёй зямлі.

Аднак, нягледзячы на зробленыя заўвагі, можна сказаць, што з'езд дасягнуў сваёй мэты.

Як адзначыў старшыня Беларускай сялянскай партыі Яўген Лугін, з'езд падкрэсліў, што ўзрасла яе роля. Яна набірае моц, з'яўляецца палітычнай сілай, з ёю не могуць не лічыцца ў рэспубліцы.

Вучонымі Беларусі на з'ездзе быў прааналізаваны стан зямлі. Зямля наша хворая.

— У барацьбе за высокія ўраджаі, і, адпаведна, за высокія ўзнагароды, — сказаў Чэслаў Раманоўскі,—у глебу бяздумна і не па-гаспадарску ўносіліся мінеральныя ўгнаенні, праводзілася, дзе трэба і дзе не трэба, вапнаванне. І вось некаторыя вынікі: 6,9 працэнта ўсіх земляў аказаліся з лішкам фосфару, 500 тысяч гектараў—перавапнаваныя. Перанасычанасць каліем (16,1 працэнта ўсіх земляў) прывяла да ўтварэння стронцыю. Вось тут і радыенукліды, і нітраты... А празмернае, у многіх месцах не патрэбнае прымяненне аміячнай вады вядзе да атручвання не толькі сельгаспрадуктаў. У выніку дажджоў, розных аварый ці проста безгаспадарчасці ад аміяку гіне і фаўна, і флора.

Горкі прыклад—Докшыцкі раён. Тут атрымлівалі добрыя ўраджаі дзякуючы хімічным угнаенням, але загубілі прыроду і саму зямлю.




Праўда, перасцерагаюць вучоныя, не трэба кідацца і ў іншую крайнасць. У Карэліцкім раёне, напрыклад, можна абысціся і без мінеральных угнаенняў. Але другая бяда: занадта многа тут розных фермаў і жывёлагадоўчых комплексаў. І вось вынік—у два разы вышэй нормы забруджана арганікай вада.

Валянцін Развецкі з Інстытута эканомікі праблем АПК паспрабаваў абгрунтаваць свой погляд на формы гаспадарання на зямлі на бліжэйшы і больш аддалены часы.

— Цяпер,— адзначыў Валянцін Сямёнавіч, — нельга ставіць пытанне аб ліквідацыі калгасаў і саўгасаў. Іх сёння каля 2,5 тысячы. І яны, у асноўным, кормяць і сябе, і горад. Іншая справа, што поўнай аддачы няма.

Валянцін Развецкі згадзіўся з тымі, хто выступае за паступовую ліквідацыю калгасаў і саўгасаў. Што ўзамен прапаноўвае вучоны?

— Я за дзве формы гаспадарання на зямлі: дзяржаўную і прыватную,—падкрэсліў ён.—Іншых шляхоў няма. Хаця хтосьці і прапануе замяніць калгасны і саўгасны лад жыцця яшчэ нечым іншым, таксама калектыўным. У гэтым я бачу спробу захаваць камандна-адміністрацыйную форму гаспадарання, сутнасць якой: як мага больш есці, і як мага менш працаваць.

З трох дакладаў, бадай, выступленне Валянціна Развецкага было найбольш цікавым і... супярэчлівым. Таму адны дэлегаты сустракалі палажэнні вучонага апладысментамі, другія ж з'едлівымі рэплікамі. Задавалася яму і мноства пытанняў.

Адно з іх заслугоўвае асаблівай увагі. «Колькі беларускай зямлі належыць ваенным? Ці вяртаюць вайскоўцы зямлю яе законным гаспадарам»?

Зрух, як высветлілася, ёсць. Ваенныя вярнулі насельніцтву ўжо 20 тысяч гектараў і сёлета перададуць яшчэ 40 тысяч гектараў зямлі. Гэта сталася магчымым, дзякуючы скарачэнню войск на тэрыторыі Беларусі. Адно засмучае. На былых палігонах, стрэльбішчах пакінута шмат і старой тэхнікі, і рознага іншага хламу. Шкада, што Валянцін Сямёнавіч не адказаў на пытанне: колькі яшчэ зямлі належыць ваенным. Выказваліся пажаданні, каб апошнія перадавалі сельскім гаспадаркам і частку тэхнікі: грузавікі, цягачы...

Беларуская сялянская партыя, як мы адзначалі ў адным з нумароў газеты, распаўсюдзіла сярод дэлегатаў праект закона аб зямлі. Ужо ў першым яго артыкуле гаворыцца, што зямля павінна стаць таварам, купляцца і прадавацца.

— Толькі рабіць гэта трэба асцярожна, з розумам,— папярэдзіў вучоны Міхаіл Антоненка. — Купіць зямлю жадаюць многія, у тым ліку і гараджане, і... іншаземцы. Купяць ці прыкупяць і многія сяляне. Ды ці не «перагнуць палку» тыя, хто будзе прадаваць? Ці не нажывуцца яны на гэтым? Ці не абыдуць, не пакінуць ні з чым менавіта законных, мясцовых гаспадароў зямлі, тых, хто сёння жыве на ёй?

Апошніх найбольш якраз часта і крыўдзяць. Пра гэта гаварылі многія дэлегаты.

— Ілянскі сельскі савет быццам бы выконвае пастанову ўрада аб выдзяленні зямлі фермерам,—расказваў дэлегат з Вілейшчыны Уладзімір Кажамяка.—Але даюць такія ўчасткі, якія зусім не прыдатныя для апрацоўкі. Часцей за ўсё, пераўвільготненыя. Вядома, мы ад іх адмаўляемся і патрабуем іншыя. Тады кіраўніцтва сельсавета распускае чуткі сярод насельніцтва, што мы, фермеры, нібыта захопліваем самыя лепшыя землі і хутка станем новымі панамі. А будуць паны, будуць і парабкі. Таму нават суседзі на нас глядзяць як на сваіх ворагаў.

Доўга давялося абіваць парогі розных інстанцый, каб атрымаць некалькі гектараў зямлі і фермеру з Віцебшчыны Сяргею Праскураву. Задумаў ён пабудаваць птушкаферму. Умовы дазвалялі: сярод выдзеленай зямлі ёсць глыбокі яр, які няцяжка запоўніць вадой, дзе будзе плаваць птушка. Але мясцовыя ўлады забаранілі будаваць ферму: яр — не ўласнасць фермера, капай на сваіх гектарах новы.

Падобныя выступленні на з'ездзе паўтараліся не раз. Мясцовыя ўлады ўсяляк тармозяць развіццё фермерства. Выдзеляць зямлю (і то далёка не лепшую)—не выдзеляць крэдытаў, не забяспечаць тэхнікай. Ляжыць тая зямля за многія кіламетры, няма на чым пад'ехаць, апрацаваць, пабудаваць ферму, ды і непамерна дорага каштуюць будаўнічыя матэрыялы.

Як выказаўся адзін з фермераў Міншчыны: «Нас заганяюць на хутары, стараюцца нібы ізаляваць ад людзей, адасобіць. Ствараючы цяжкія ўмовы, штучныя перашкоды, стараюцца пераконваць усіх у бесперспектыўнасці фермерскай справы. Толькі мы —народ упарты, даб'ёмся свайго».

Так, да старога не будзе павароту. Новае возьме сваё. Ды колькі трэба затраціць і маральных і фізічных сіл, каб дамагчыся мэты?..

Было б няправільна сцвярджаць, што дэлегаты прыехалі на з'езд толькі з уласнымі крыўдамі і прэтэнзіямі. Гучала нямала слушных прапаноў па арганізацыі фермерства, адбыўся плённы абмен вопытам гаспадарання на зямлі.

Той жа Уладзімір Кажамяка сказаў, што фермерам раёна цяжка наладжваць справу паасобку. І таму, каб апрацоўваць зямлю, будаваць на ёй, прынята рашэнне аб'ядноўвацца ў фермерскія асацыяцыі, дапамагаць адзін аднаму. Такая ўзаемадапамога проста неабходна на першым часе.

З'езд завяршыўся без усялякай помпы. Штосьці зроблена, але пакуль што гэтага мала, каб дапамагчы нашай рэспубліцы выйсці з крызісу, які ахапіў грамадства. Ясна адно: без надзейнага, моцнага гаспадара ў вёсцы, на зямлі нам не выйсці на шлях прагрэсу і дабрабыту.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: ёсць аб чым пагутарыць маладым фермерам Беларусі. (Здымак зроблены ў час II з'езда беззямельных сялян, які прайшоў у Мінску).**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## З ЧУЖЫХ СТАРОНАК

# ЯК ТРАПІЦЬ У КАНАДУ?

На зацвярджэнне федэральнага парламента Канады прадстаўлена новае іміграцыйнае заканадаўства, якое павінна змяніць парадак разгляду спраў асобаў, якія падалі прашэнне аб прадастаўленні ім статуса бежанца.

Новае заканадаўства ў корані мяняе палажэнні іміграцыйнага акта, прынятага ў 1976 годзе, паколькі прадугледжвае падзяленне ўсіх патэнцыяльных імігрантаў на тры групы.

Да першай групы будуць адносіцца найбольш жаданыя для Канады імігранты, і разгляд іх дакументаў з гэтага часу будзе праводзіцца па скарочанай працэдуры. У спіс найбольш пажаданых асоб уваходзяць члены сямей ці прамыя сваякі грамадзян Канады ці людзей, якія маюць у Канадзе афіцыйны іміграцыйны статус, якія пры гэтым трапляюць пад вызначэнне бежанца згодна з канвенцыяй ААН, а таксама тыя прэтэндэнты на іміграцыю ў Канаду, у каго дастатковая колькасць грошай, якія яны збіраюцца інвеставаць у канадскую эканоміку.

Другая група ўключае бацькоў, дзядоў і бабуль канадскіх грамадзян ці асоб, маючых статус landed immigrant, а таксама людзей, якім прадастаўляецца дзяржаўная дапамога, ці якія маюць падтрымку нацыянальных абшчын. Імігранты гэтай катэгорыі будуць абслугоўвацца іміграцыйнымі службамі Канады згодна з чаргой.

Да трэцяй катэгорыі адносяцца людзі, якія прэтэндуюць на атрыманне ў Канадзе статуса іміграната на падставе сваёй прафесіі ці роду заняткаў альбо на якой-небудзь іншай падставе. Іх справы будуць разглядацца ў залежнасці ад таго, наколькі ў вачах канадскіх іміграцыйных улад яны каштоўныя як спецыялісты.

Іміграцыйная квота гэтага года — 250 тысяч чалавек (утрая больш, чым 8 гадоў назад).

Каб пазбавіцца ад нераўнамернасці ў размеркаванні спецыялістаў па геаграфічных раёнах краіны, міністр іміграцыі Бернард Валкурт прадставіў на разгляд парламента праект закона, які прадаставіў бы яго ведамству права пасылаць прадстаўнікоў адпаведных прафесій, якія падалі заявы на атрыманне іміграцыйнага статуса ў Канадзе, у розныя раёны краіны на пэўны перыяд часу. Мяркуецца, што гэты перыяд будзе роўны 2 гадам і, па патрабаванню іміграцыйных улад, ім будзе прадастаўлена права дэпартаваць з краіны тых імігрантаў, якія пакінуць месца свайго прымацавання да сканчэння гэтага перыяду.

Што ж тычыцца непасрэдна бежанцаў, то ўсе 30 тысяч чалавек, якія шукаюць у сучасны момант прытулку ў Канадзе, у адпаведнасці з новым законам абавязаны будуць прадаставіць іміграцыйным уладам адбіткі пальцаў, што дапаможа, на думку міністэрства іміграцыі, кантраляваць уезд у краіну злачынцаў з іншых краін. У астатнім жа іх справы будуць разглядацца ў адпаведнасці з іміграцыйным заканадаўствам.

Атава збіраецца прыкласці ўсе намаганні, каб спыніць практыку падачы прашэнняў на прадастаўленне статуса бежанца асобам, якія не маюць на тое падстаў, не праследуюць мэты, пажыўшы некаторы час у Канадзе, зарабіць грошы і пры атрыманні адмовы выехаць назад у сваю краіну.

**«ВЕСТНИК», Таронта.**

# ВЕЧНАЮ ЗАСТАЕЦЦА ЛЮБОЎ

**Што ведае сённяшні жыхар Мінска пра свой горад, пра гісторыю роднага места, яго архітэктуру і быт! Ці зможа ўявіць, якою была сталіца хоць бы сотню гадоў назад, не кажучы ўжо пра больш далёкі час! Адказ на гэтыя пытанні, хутчэй за ўсё, маласуцяшальны. Тым болей цікавым і дасведчаным праваднiком па старым Мінску здаецца нам сёння Людвік КАНДРАТОВІЧ (Уладзіслаў СЫРАКОМЛЯ).**

**Вялікі патрыёт свайго краю, беларуска-польскі паэт-дэмакрат у 1857 годзе ў часопісе «Тэка Віленьска» надрукаваў грунтоўны гісторыка-краязнаўчы нарыс «Мінск». Гэта была не першая ягоная праца, прысвечаная гісторыі айчыны. Перад тым Ул. Сыракомля напісаў «Вандроўкі па маіх колішніх ваколіцах» (Нясвіжы, Міры, Койданаве, Стоўбцах). Манаграфія «Мінск» задумвалася аўтарам як своеасаблівы працяг «Вандровак». Аднак, друкуючы яе, пісьменнік нідзе не звярнуў на гэта ўвагі. «Тым не менш, — заўважае даследчык жыцця і творчасці Ул. Сыракомлі Уладзімір Мархель, — наўрад ці тут было адступленне ад першапачатковай задумы. Нарыс... пашыраў абсяг «колішніх ваколіц» Сыракомлі, апісаных ім у першай краязнаўчай кнізе, і, відаць, стаў бы наступным томам «Вандровак», калі б было падрыхтавана яго асобнае выданне... Паводле сведчання жонкі паэта, у «Тэцы» друкавалася толькі частка «Апісання Мінска». Ёсць таксама звесткі, што нарыс «у 80 працэнтах застаўся ў рукапісу».**

**І ўсё ж нават тое, што вядома з гэтай працы, а іменна: «Беглы агляд сучаснага стану Мінска» і яго «Хроніка» — дае мажлівасць уявіць, які быў наш горад у сярэдзіне XIX стагоддзя, як тыя ці іншыя гістарычныя абставіны мянялі яго аблічча.**

**Пэўна ж час і развіццё гістарычнай навукі ўнеслі некаторыя ўдакладненні і папраўкі ў Сыракомлеву «Хроніку». Але нязменнаю і самаю важнаю астаецца любоў пісьменніка-патрыёта да Беларусі.**

**Дык гляньма ж і мы яго захопленымі вачыма на свой край, на постаці продкаў, на старажытны і такі цікавы Мінск.**

# МІНСК

## БЕГЛЫ АГЛЯД СУЧАСНАГА СТАНУ МІНСКА

### I

**РАЗМЯШЧЭННЕ. — КЛІМАТ. — УНУТРАНЫ ВЫГЛЯД МЕСТА. — СТАТЫСТЫКА. — ВЫСОКІ РЫНАК. — ГАЛОЎНЫЯ ВУЛІЦЫ, ГМАХІ І ПЛОШЧЫ. — ПАЎСЛОЎЦА ПРА ГАНДАЛЬ. — САДЫ. — АЎТАРСКАЕ АДСТУПЛЕННЕ І ВЯРТАННЕ ДА ПРАДМЕТА ГАВОРКІ.**

Места Мінск, размешчанае на 53°54′15″ паўночнай шыраты і на 25°13′15″ усходняй даўгаты, ва ўмеранай здаровай кліматычнай зоне, заслугоўвае ўвагі як сваім размяшчэннем, так і ўнутраным выглядам. Месца, дзе гэты стары горад шмат вякоў назад быў закладзены, не вызначаецца багаццем краявідаў, як Вільня, Трокі, Коўна, Наваградак і іншыя гарады, заснаваныя літоўскімі князямі, якія ўмелі сваім стратэгічным, а таксама эстэтычным вокам адшукаць пад места найпрыгажэйшыя ваколіцы ў сваім краі, спалучаючы адначасна патрэбы мілітарнага ўмацавання з поўным грацыі харaством, што сведчыла пра паэтычны настрой душы гэтых дзікіх заснавальнікаў. Гаспадарлівы русін пры закладцы свайго места кіраваўся галоўным чынам ваеннымі і гаспадарчымі патрэбамі: блізкасцю вады, пашы і лесу. У такім месцы і закладзены Мінск, шырока раскінуты па абодва бакі ракі Свіслач, што ўпадае ў Бярэзіну, з адметнымі, уласцівымі толькі яму краявідамі. Па берагах галоўнай ракі, яе затоках і рукавах сустракаюцца цудоўныя мясціны: некалькі пагоркаў упрыгожваюць краявід, а багатая скрозь расліннасць найперш цешыць вока пышнымі дрэвамі, весяліць выглядам багатай збажыны і пашы. Калі некаторыя мясціны, як, напрыклад, заезд з боку Койданава, не сведчаць на карысць размяшчэння Мінска, то іншыя, такія, як прадмесце Камароўка, Ляхаўка, Пярэспа, Траецкая гара, шчодра гэта кампенсуюць. Рака Свіслач плыве то па зялёнай сенажаці, асланяючыся вянком прыгожых вольхаў, то перарываецца доўгім мостам, перакінутым праз затоку. І ўсё гэта разам стварае непаўторны, запамінальны малюнак. Спічакі касцёлаў і гмахі, што здаля кідаюцца ў вочы, надаюць Мінску выгляд места нашмат большага, чым ёсць на самай справе.

Знутры места Мінск вызначаецца акуратнасцю і парадкам. Вуліцы шырокія і прамыя, дамы ж не сціснуты між сабою, паветра чыстае, скрозь даступнае правевам ветру настолькі, што нават тыя вуліцы, дзе жыве выключна жыдоўская бедната, можна праходзіць без гідлівасці, якую, напрыклад, у нас у Вільні выклікаюць Жмудская або Жыдоўская. Муры і бярвёны дамоў, памаляваныя адною белаю фарбаю, выглядаюць лепей як у Вільні, дзе стракатасць колераў часта псуе знешні выгляд найпрыгажэйшага будынку. На вуліцах няма тлуму, бо ўсім тут прасторна, а будынкі найбольш важнага значэння не засланяюцца іншымі і выступаюць ва ўсёй сваёй веліччы. Зрэшты, Мінск і да гэтага часу амаль напалову мураваны. Сасновыя, адна- а часам двухпавярховыя, з цаглянымі падмуркамі дамы стаяць на галоўных вуліцах поруч з двухпавярховымі камяніцамі альбо нават блізка цудоўных гмахаў, часам псуючы агульны эфект, але дзе-калі і разнаіцяць яго, перарываючы аднастайнасць мураваных камяніц, да якіх вока настолькі прывыкае, што ўжо асобных з гэтых будынкаў




нават не заўважае.

Тэрыторыя места займае 604 дзесяціны 253 сажні. Насельніцтва горада паводле падлікаў 1856 года, складае 13,451 мужчынскага полу, 10,501—жаночага, а ўсіх разам — 23,952, амаль дваццаць чатыры тысячы, калі ж, аднак, улічваць і прыезджых, лічба даходзіць да дваццаці пяці тысяч. З гэтай колькасці —паводле класавага падзелу—шляхты мужчынскага полу— 291, жаночага—393. Мяшчан мужчынскага полу—10 091, жаночага — 9 170. Чыноўнікаў — 178. Вайскоўцаў — 1 681. Духавенства, праваслаўнага, белага — 20, манахаў — 2; рымска-каталіцкага мужчынскага — 52, мнішак — 16; лютаранскага — 1; магаметанскага — 1 чалавек.

Паводле веравызнання: праваслаўнага мужч.—1 868, жанч. —1 679; католікаў мужч.—4 215, жанч.— 3 196; лютэран. мужч.— 18, жанч. — 20; магаметан мужч. — 150, жанч. — 133; жыдоў мужч.— 7 200, жанч. — 6 673. Усё гэтае насельніцтва жыве ў 1 442 дамах, з якіх да дзяржаўных належаць 16 цагляных і 15 драўляных, да прыватных—333 цагляныя і 1 078 — драўляных. Заўважым, што колькасць дамоў адносна колькасці насельніцтва — даволі значная, бо прыблізна на адзін дом прыпадае 16 жыхароў, у той час як у Вільні — 34 жыхары; але разам з тым у Мінску няма такіх вялікіх дамоў, як у Вільні, да прыкладу, дамы Мюлера, Паца, Вільгоцкай і шмат іншых, а таму і быць іх павінна нашмат больш.

Найцікавейшае месца ва ўсім горадзе, безумоўна, так званы Высокі рынак, да якога сыходзяцца ўсе галоўныя вуліцы, і якія абступаюць высокія дамы і гмахі. Размешчаны высока на пагорку, забрукаваны, шырокі — гэты рынак імпануе здалёк, добра бачны з прамых, як страла, акуратных прылеглых вуліц. Упрыгожваюць яго: кафедральны па-езуіцкі касцёл з унутранай галерэяй, што ажно выходзіць на пляц, з старым кляштарам тых жа езуітаў (цяпер казённы дом), з высокаю гадзіннікаваю вежаю, якую збудавалі езуіты ў 1750 годзе, і домам, у якім месціцца са сваёю ўправаю мясцовы цывільны губернатар. На другім баку рынку — гатэль купца пана Паляка, мясцовы тэатр (колісь дом Байкова, а цяпер — дом купца Беластоцкага, рэстаўраваны ў 1825 годзе), цудоўныя магазіны братоў Вянцкоўскіх, галантарэйны Айзенштата і некалькі іншых, два дабротныя мясцовыя рэстараны, аптэкі, цукерні. Усё гэта вабіць унутраным парадкам, архітэктураю і бляскам шыльдаў. Трэці бок рынку ідзе паралельна кафедральнаму касцёлу, там жа стаіць стары даміканскі касцёл (цяперашняя каталіцкая семінарыя), цудоўны гмах, адведзены пад судовыя ўстановы (пабудаваны ў 1852 годзе паводле плана архітэктара Казіміра Хрышчановіча), нядаўна ўзведзены раскошны грэка-расейскі сабор і г. д.

З чацвёртага боку і пасярэдзіне рынку віднеюцца магазіны замежных напояў і магазін мод пані Дэльпачэ, рады жыдоўскіх крамаў і некалькі крамаў з расейскімі таварамі, сярод якіх вылучаюцца крамы купцоў Ракава, Пуляшкіна, Дзехцяровых і г. д. І амаль кожны дом усміхаецца нам ці зграбнаю мансардаю, ці элегантным балконам, і кожная крама свеціцца пазалотаю, міла аформленаю шыльдаю, выставаю тавараў. Туркочуць тут і размінаюцца аднаконныя дрожкі, віруе найбольш арыстакратычны люд, соваюцца туды-сюды купкі жыдоў, але не адчуваецца тлуму, бо на шырокай прасторы ўсё гэта рассыпаецца на малыя і маляўнічыя групкі, перамяшчаецца, як у калейдаскопе. Усё тут такое чыстае, новае, прыгожае, што напраўду імпануе сваёю еўрапейскасцю таму, хто, як мы, прыехаў з Вільні і чыё вока прывыкла да беспрэтэнзійнай фізіяноміі сціснутых, заслоненых адзін адным дамоў, ад якіх вее духам векавой старажытнасці. Тут жа нешта падобнае знойдзеш, толькі калі спусцішся з Высокага рынку, каля касцёла бернардзінцаў, да рынку, што завецца Нізкім, дзе нашмат больш людскога тлуму, цеснаты і дзе часта забудовы нагадваюць сваёю архітэктураю старыя часы і старыя звычаі.

Важнейшыя вуліцы места — Койданаўская, на якой раней было некалькі касцёлаў і цэркваў, а цяпер мала хто можа паказаць месца, дзе яны стаялі, Францысканская, якую аздабляе мноства крамаў і гандлёвых устаноў і найлепшай аздобаю якой стаў будынак гімназіі, заснаванай у 1844 годзе згаданым ужо архітэктарам Хрышчановічам, — вуліца цудоўная, шырокая, амаль цалкам забудаваная акуратнымі мураванымі камяніцамі.

Вуліца Саборная, на якой стаіць касцёл і кляштар бенедыкцінак, і яе працяг — Феліцыянская, ужо найбольш забудаваныя адна- і двухпавярховымі драўлянымі дамамі і дамкамі, што ўціснуліся ў асяродак сваіх арыстакратычных братоў, як тыя вяскоўцы, што, трапіўшы на відовішча, праціскваюцца, як могуць, бліжэй да сцэны, не зважаючы на грамаду вяльможных паноў. Вуліцы гэтыя вядуць з Высокага рынку да турмы, што стаіць за горадам і завецца Турэмным замкам.

Вуліца Даміканская таксама лічыцца адной з важнейшых — ідзе яна каля старога касцёла даміканаў, з Высокага рынку на Гандлёвы рынак, або ў так званы Новы горад. На іншых вуліцах, больш ці менш другарадных, што не выходзяць на галоўную плошчу, такіх, як Захараўская, Валоская, Юраўская, таксама дзе-нідзе сустракаюцца прыгожыя будынкі, а сваёй чысцінёю, прасторaю, прамізною яны не ўступаюць галоўным вуліцам. На апошняй з іх заслугоўвае ўвагі камянічка, што належыць п. Галоўні і лічыцца найстаражытнейшаю ў Мінску. У ёй жыў цар Павел І, які пасля свайго ўступлення на трон быў у Мінску. Наогул, Мінск налічвае 46 вуліц і вулачак, з якіх 22—брукаваныя.

З усіх мясцін Мінска найлепей ведаем Новы горад, бо жылі мы там ажно два тыдні. Стары Мінск ад вякоў, па меры таго як будаваўся, пасоўваўся з захаду на ўсход. Высокі рынак, цяперашні цэнтр горада, пэўна ж, не быў такім пры старых крывіцкіх князях Полацкай дынастыі.

Сёння, па меры росту і росквіту места , гэты цэнтральны пункт распускае ўсё далей свае галіны каланізацыі жыцця і руху, а Новы горад, які многія гады быў звычайным гандлёвым месцам, разбудаваўся плошчамі і гмахамі важнага значэння.

Рынак Новага горада, гандлёвае месца і бульвар (для шпацыраў), у абсадзе маладых дрэваў, атачаюць прыгожыя мураваныя камяніцы: дамы купцоў Гольдберга і Ансэльрода, узведзеныя паводле плана архітэктара Хрышчановіча; лютэранскі касцёл, вымураваны ў 1844 годзе; дом мешчаніна Ліпінскага; дом графа Тызенгаўза, у якім цяпер паштамт і некалькі іншых. На суседняй, прылеглай да плошчы вуліцы, дзе праходзіць гандаль у час кірмашу, які, пачаўшыся 23 мая, доўжыцца амаль чатыры тыдні, ставяць драўляныя буданы для прыезджых купцоў, аднак колькасць гэтых буданоў увесь час змяншаецца, бо тутэйшы кірмаш штораз трацiць сваё значэнне, магчыма з-за большай актыўнасці мясцовых купцоў. У мінулым годзе колькасць гэтых буданоў не перавысіла нават дзесяці.

**Уладзіслаў СЫРАКОМЛЯ.**

**(Працяг будзе).**

# ЗВАЎ З ЦЕМРЫ ДА СВЯТЛА

Імя Янкі Купалы—сімвал Беларусі, знак Бацькаўшчыны. Кожны народ мае сваіх прарокаў. На вялікае шчасце, беларусы маюць Янку Купалу. Сёння, у час новага ўздыму нацыянальнай самасвядомасці, новага Адраджэння мы гэтую радасць адчуваем асабліва востра, як горка перажываем крыўду і несправядлівасць, што выпалі на долю песняра на яго нялёгкім жыццёвым шляху.

Ні з кім з беларускіх літаратараў не звязана столькі таямніц, як з Купалам, а ключ да іх усё яшчэ захоўваецца ў архівах спецслужбаў, якія «курыравалі» прозу і паэзію. Ці ж не крыўдна ўсведамляць сёння, што паэт, які пры жыцці лічыўся класікам, быў не цалкам вядомы сваім чытачам, ад іх хавалі яго драматургію, вершы, публіцыстыку. Чаго баяліся ўлады? Таго, што пісьменніка не зразумее народ, ці пісьменнік выйдзе з-пад кантролю і скажа народу нешта такое, што ўступіць у супярэчнасць з афіцыйнай палітыкай?

На сцэне купалаўскага тэатра амаль 2 гады з поспехам ідзе п'еса «Тутэйшыя», прадстаўленая нядаўна на атрыманне Дзяржаўнай прэміі, здымаецца кінафільм; падрыхтавана цэлая канцэртная праграма па вершах песняра, раней забароненых і схаваных ад народа; да нас вяртаецца публіцыстыка Янкі Купалы рэвалюцыйнага перыяду, якая ўражвае сваёй сучаснасцю, разуменнем паэтам тых праблем, якія беларусы выранаюць і сёння.

У артыкуле «Ці маем мы права выракацца роднай мовы», напісаным у 1910 годзе, а надрукаваным упершыню ў «Нашай ніве» ў красавіку 1914 года Купала называе мову «душой душы» чалавека, прычым мова так зраслася з народам, як «зрастаецца са сваім коранем дзерава: падкапайцеся пад дзерава, абсячыце дазвання яго корань—дзерава завяне, засохне, перастане жыць... Сам народ можа падпасці пад чужое сільнейшае ўладарства і часам цэлыя вякі насіць на сабе путы няволі, але ніколі ў заваяваным ці забраным народзе няможна выдзерці яго душы і яго роднага слова».

Кожны, хто быў 2 ліпеня ў купалаўскім тэатры на вечары, прысвечаным юбілею песняра, мог з радасцю падумаць: а можа нешта зрушылася ў душах рахманых, большай часткай абыякавых для ўсяго нацыянальнага беларусаў? Зала тэатра была перапоўнена, людзі стаялі ў праходах, у фае, на балконах. Усе, хто выступаў на вечары, гаварылі пра Янку Купалу як пра зорку першай велічыні на нацыянальным небасхіле.

4 ліпеня свята працягвалася ў Вязынцы на радзіме вялікага песняра. Яно было традыцыйным, бо праводзіцца тут амаль штогод, але ўсё ж і адметным сваёй урачыстасцю, большай колькасцю аматараў паэзіі, пісьменнікаў, мастацкіх калектываў, якія прынялі ў ім удзел.

Каля сцэны не хапіла ўсім месцаў на лаўках, і людзі, якіх з кожнай новай электрычкай прыбывала з Мінска ўсё болей і болей, рассаджваліся проста на траве, у засені старых дрэваў.

...У Вязынцы, на беразе срабрыстай рачулкі, побач са старажытнымі курганамі, нарадзілася будучая слава Беларусі, сапраўды народны паэт, якому наканавана ўсё жыццё рупіцца і нецярплівіцца, шукаць кветку шчасця для свайго народа. Вуснамі Янкі Купалы на ўвесь свет загаварыла сама Беларусь—таленавітая і пагарджаная, багатая духоўна і непрызнаная як нацыя...

...Тое, што пачаў рабіць малады Купала і зрабіў, сёння смела можна назваць літаратурным і грамадзянскім подзвігам. Толькі замілаваны сваім народам, родным краем паэт змог узняцца над усім другарадным, адкінуць крыўды і амбіцыі, каб заклікаць народ ісці «людзьмі звацца», каб усе пачулі, што «жыве Беларусь!», —такімі словамі можна перадаць сэнс сказанага пра Янку Купалу на свяце. І кожнае слова, паэтычнае ці прозы, глыбока хвалявала прысутных. Сюды прыйшлі з дзецьмі, цэлымі сем'ямі, усе тыя, каму дарагое імя песняра і ідэя адраджэння нацыянальнай культуры, памяць пра свае карані...

Са сцэны гучалі вершы і песні на словы Янкі Купалы, і поле і пагоркі, запоўненыя людзьмі, сотнямі галасоў падхоплівалі знаёмыя словы, падцягвалі любімыя мелодыі.

Людзі, якія прыехалі на свята, у большасці сваёй упершыню аглядалі нядаўна адкрытую экспазіцыю прадметаў ужытку беларусаў, габелены, выробленыя дзедаўскім спосабам, і цудоўныя па тонкасці выканання калядныя маскі майстра Салдаценкавай, слухалі паэтычныя чытанні, выступленні народнага хору, беларускіх акцёраў і пісьменнікаў, успаміналі купалаўскія радкі.

Купалаўскія дні прайшлі ва ўсіх месцах, звязаных з імем вялікага паэта. А гэта сведчыць пра неўміручасць яго слова, мудрасць яго навукі, любоў народа да свайго Песняра.

**Здымкі фотакарэспандэнт Віктар СТАВЕР зрабіў 4 ліпеня 1992 года ў Вязынцы, яны засведчылі тое, пра што гаворыцца ў гэтых нататках.**














## ТВОРЧЫ САКРЭТ ПАЎЛА МАЛЧАНАВА

# ДАРОГА ДА ВЯРШЫНЬ

— «Пераліўка» абуджае сцэнічны тэмперамент, зменшвае псіхалагічную нагрузку і асабліва ў найцяжэйшых месцах маналога. Упершыню прыём быў выяўлены і замацаваны ў практыцы індыйскіх ёгаў...

...Магутна прагучалі маналогі. Акцёр пераканаў аўдыторыю ў сваім таленце і высокім майстэрстве. Воплескам, здавалася, не будзе канца. Усе ўсталі. Юр'еў тройчы пацалаваў Малчанава.

Студзень 1951 года. На студыі «Масфільм» зацверджаны да пастаноўкі сцэнарый Усевалада Вішнеўскага «Незабыўны, 1919-ы». Пачаўся актыўны пошук акцёраў. Асабліва на ролю Леніна. З розных гарадоў і тэатраў краіны былі запрошаны ў Маскву артысты-выканаўцы гэтай надзвычай тады складанай і адказнай ролі. Ужо каторы дзень праводзіліся кінапробы, але рэжысёр ўсё быў незадаволены. Даведаўшыся пра гэта, я параіў звярнуць увагу на майго шматгадовага нязменнага сябра і творчага настаўніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, народнага артыста СССР Паўла Сцяпанавіча Малчанава, які тады ў Беларускім дзяржаўным тэатры імя Якуба Коласа якраз выконваў ролю Леніна. У той жа дзень Малчанаву была даслана запрашальная тэлеграма. А далей я атрымаў ад яго ліст, дзе Павел Сцяпанавіч паведамляў: «Ездзіў у Маскву на першую пробу. Чыаурэлі жадае зрабіць маю галаву анатамічна падобнай на галаву Леніна, а гэта надзвычай цяжка... Падабенства атрымалася мала мяне задавальняючае. У грыме я прачытаў урывак з «Чалавека з ружжом». Прысутных гэта адразу заінтрыгавала. Вырашылі не спяшацца і зрабіць усё вельмі сур'ёзна. Знялі з мяне гіпсавую маску і будуць спецыяльна для мяне рабіць пластычныя наклейкі. Дамовіліся, што пасля 15-га сакавіка я паеду зноў для пробы на фота і на плёнку. Хаця там конкурс на гэтую ролю вялікі, але Чыаурэлі сказаў, што я сур'ёзны кандыдат».

Праз некаторы час на мастацкім савеце былі прагледжаны ролікі ўсіх прэтэндэнтаў на ролю Леніна. Пагадзіліся, што ролік Паўла Малчанава — найлепшы.

Павел Сцяпанавіч гаварыў:

— Фільм ухвалілі і прынялі цалкам. Збіраліся ўжо размнажаць у копіях і перагучваць на мовы дружалюбных краін. Але зусім нечакана Міхаіла Чыаурэлі выклікаў Лаўрэнцій Берыя. Вярнуўся рэжысёр з апушчанай галавой і паведаміў: «Загадана асноўныя ленінскія сцэны не ўключаць у фільм». Прычым было сказана літаральна так: «Ленин, конечно, хороший человек, но то, что сделал Сталин, выше любого сравнения...»

Дарэчы, Сталіна іграў Міхаіл Гелавані, як лічылася тады, найлепшы з выканаўцаў гэтай ролі. Ён ужо іграў Сталіна ў розных мастацкіх фільмах. І нават у самога Чыаурэлі ў «Падзенні Берліна». Сам Сталін ці пазнаваў сябе? Быў на экране ён вонкава падобны, узвышаны, абаяльны і добры як Хрыстос. Па сутнасці Гелавані іграў самога сябе. Ён быў артыст бясспрэчна таленавіты, а як чалавек—інтэлігентны і дабрадушны. Але і ён аднойчы сарваўся. У нейкі здымачны дзень пагана ладзіліся справы па прычыне дрэннага сінхроннага гуказапісу. Гелавані вымушаны быў бясконца дубліраваць адно і тое. Пад канец дня ён зашумеў: «Даволі! Што вы са мной робіце?! Я не магу, як трэба, іграць правадыра за такую малую стаўку. Скажу яму пры сустрэчы». Назаўтра Гелавані быў запрошаны высокім кіначальствам. Паведамілі, што стаўка значна павялічана. Персанальная.

«Не прымаю! — ашаламіў начальнікаў Гелавані.— Я не магу, не дазваляе сумленне атрымліваць болей, як Ленін. Ды яшчэ такі незаменны акцёр, як Малчанаў».

Такая ж стаўка была зацверджана і Малчанаву.

Здымалі сустрэчу Леніна са Сталіным. У перапынку да мяне падышоў у грыме Гелавані. Сказаў:

— Лёша! Не исчезай после съемки. Я хочу сделать приятное Павлу Степановичу. Поедем в грузинский ресторан. Нас будет ждать мой друг Вано Заушташвили. Ты его знаешь...

Увесь адзняты матэрыял прыхавалі польскія і грузінскія кінематаграфісты, якія былі тады асістэнтамі на практыцы ў Чыаурэлі. Неабходна скапіраваць яго ў нашых суседзяў. Гэтыя кінакадры можна ўманціраваць у дакументальны фільм пра Малчанава. Нельга пагарджаць гісторыяй, а ў тым ліку і гісторыяй мастацтва. Будучыя пакаленні не даруюць нам інертнасці і санлівай абыякавасці.

Калі канчаліся здымкі «Незабыўнага, 1919-га», у Маскоўскім акадэмічным тэатры СССР імя Максіма Горкага рыхтаваліся ставіць п'есу, дзе была роля Леніна. Даведаўшыся пра поспех на «Масфільме» беларускага артыста, прапанавалі яму работу ў гэтым сусветна славутым рускім тэатры.

У Маскве Малчанава наведаў сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі Цімафей Гарбуноў і перадаў афіцыйнае запрашэнне пераехаць з Віцебска ў Мінск, на сталую працу ў тэатр імя Янкі Купалы. Роздум быў кароткі і радасны. Павел Сцяпанавіч напісаў мне тады: «Я выязджаю ў Віцебск, прабуду там некалькі дзён з сям'ёю, я яе даўно не бачыў і засумаваў, а затым паеду ў Мінск. Гарбуноў хацеў, каб я адразу паехаў у Мінск з Масквы, але я дамовіўся заехаць дадому».

Кіраўніцтву МХАТа Малчанаў паведаміў, што яму не пад сілу пакінуць бацькаўшчыну, дзе ён рос, дасягнуў прызнання.

Неўзабаве акцёр прыехаў у Мінск. Але тут даволі працяглы час заставаўся без кватэры і таму давялося жыць яму ў гатэлях без сям'і.

Класікі беларускай літаратуры і Я. Колас, і Я. Купала цанілі і паважалі Паўла Малчанава.

У п'есе Якуба Коласа «У пушчах Палесся» Малчанаў іграў ролю Дарвідошкі. Аўтар лічыў яе другараднай і не надаваў ёй асаблівага значэння. Але, убачыўшы сцэнічны вобраз, створаны Малчанавым, Якуб Колас быў радасна здзіўлены і нават палічыў патрэбным «пашырыць» гэтую ролю.

У кнізе «Тэатр — маё жыццё» Малчанаў пісаў:

«...Пазней, хаця Колас і не пісаў больш для тэатра, мы не забывалі яго. Гастралюючы ў Мінску, мы заўсёды запрашалі Коласа ў тэатр, а таксама хадзілі наведваць яго на кватэру. Ён усіх добра помніў і прымаў вельмі ласкава і гасцінна... Мы тады доўга сядзелі з ім на лавачцы каля хаты. У двары было многа простых палявых кветак, асабліва любімых паэтам, і нават лапік жыта. Ён спецыяльна сеяў яго, каб было так, як у полі... Мяне заўсёды здзіўляла,—піша далей Малчанаў — у ім незвычайная любасць да прыроды. Ён быў заядлы грыбнік і рыбак, і гэта захапленне ішло ў яго ад імкнення больш быць сам-насам з прыродай.

Колас быў чалавекам адкрытым, Ён заўсёды з задавальненнем чытаў свае яшчэ не надрукаваныя вершы. Яму трэба было ведаць, як яны будуць успрыняты...»

Працуючы ўжо ў Мінску, Павел Малчанаў іграў ролю Якуба Коласа ў п'есе Васіля Віткі «Шчасце паэта». Колас ведаў пра гэта, але прыехаць і паглядзець спектакль у тэатры не адважваўся. Напэўна, лічыў гэта нясціплым.

Набліжалася сямідзесяцігоддзе з дня нараджэння Якуба Коласа. Павел Малчанаў быў сярод гасцей. Нехта папрасіў яго паказаць Коласа, прачытаць маналог з п'есы Васіля Віткі. Павел Сцяпанавіч збянтэжана зірнуў на юбіляра. Не меней збянтэжаны Колас махнуў рукой: «Давайце!»

Паказаны вобраз выклікаў радасныя воплескі, бо вызначаўся дакладнасцю і дасканаласцю. Якуб Колас абняў акцёра і ўсміхнуўся:

— Ну, што вы скажаце... артыст, адным словам, артыст!

**Алесь СЛЕСАРЭНКА.**

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 26, 27, 28.**

*НАША СПАДЧЫНА*

# ЧЫРВОНАЙ ПАПОНАЙ САНІ ПАКРЫВАЛІ

III

У вясновым вясельным картэжы каня і сані ці воз, на якіх перавозілі пасаг нявесты ў хату да жаніха, накрывалі прыгожай яркай гунькай. Выкарыстоўвалі яе таксама, едучы на кірмаш. З даўніх часоў вядомыя кірмашы на тэрыторыі Беларусі. Асабліва значнымі і цікавымі былі ў мінулым стагоддзі кірмашы на Гродзеншчыне, менавіта тыя, што праходзілі ў Зэльве і Свіслачы. У той жа час славіліся Любавіцкія кірмашы на Магілёўшчыне. Гэтыя мерапрыемствы не толькі дапамагалі развіццю эканамічных сувязей паміж горадам і вёскай, яны займалі вядучае месца ў культурным і грамадскім жыцці. Кірмаш быў не толькі неабходным з гаспадарчага пункту гледжання. Гэта было своеасаблівае свята, якое вянчала, завяршала цяжкую працу селяніна. Да кірмашу рыхтаваліся загадзя. Напярэдадні рыхтавалі лазню, спаць клаліся раней звычайнага, каб прачнуцца яшчэ на золку. Кожнаму хацелася першым прыехаць на кірмаш, каб паспець свой тавар разлажыць ды іншы паглядзець, а як спатрэбіцца, то і купіць што, пакуль людзей нямнога. Раніцай надзявалі лепшую вопратку, жанчыны павязвалі наміткі ці ўзорныя хусткі, а зверху накрываліся велізарнай хусткай «апінашкай», вытканай ручным способам маларамізнага ткацтва на кроснах. Гэтыя «апінашкі» былі вельмі прыгожымі, яны маглі б па свайму характару паспрачацца з сучаснымі знакамітымі пледамі, зробленымі ў Індыі, набыць якія заўсёды жадаюць нашы жанчыны. Святочны капялюш ці шапка «мегерка», у залежнасці ад надвор'я дапаўнялі мужчынам касцюм. Маладзіцы і дзяўчаты доўга круціліся перад люстэркам, прыхарошваючыся, як на сапраўднае свята. Тавар, што везлі на продаж, з вечара размяшчалі на возе ці на санях. Збруя святочная часам нагадвала сабой вельмі цікавае прыстасаванне, дзе спалучаліся ўсялякія дэталі са скуры, дрэва, тканіны, саломы, жалеза. Усё было па-мастацку аздоблена. Аброць ці бразгуны былі ўпрыгожаны самаробнымі кветкамі з паперы і тканіны, саламянымі кутасамі, званочкамі і бубенчыкамі. У час язды ўсе гэтыя прыстасаванні званілі, бразгалі, ствараючы своеасаблівую мелодыю са срэбным перазвонам. Каня і воз накрывалі чырвонай гунькай — прыгожым мастацкім вырабам, а канкрэтней — дыванком ці посцілкай, зробленымі гаспадыняй.

Для сучасных маладых людзей слова гунька, відаць, не зусім зразумелае. Дык што ж гэта такое? Расказвае старэйшая жыхарка вёскі Кісялі Астравецкага раёна Мальвіна Шапель:

— У нашых мясцінах зрэдку ўжывалі слова «папона», часцей гэты прадмет называлі «гунька» альбо «дыванік». «Дыванік» ад слова «дыван», бо гэта быццам тканая посцілка, толькі меншых памераў. Чаму называлі гунька — не ведаю. Вясковых людзей не надта цікавіць паходжанне таго ці іншага слова, для іх больш важная прыгажосць самой гэтай гунькі ды якім спосабам зроблена. Вельмі даўно, як я зусім маленькая была, апавядалі, што гунькі для каня выраблялі спецыяльныя: з выразам і рознымі прыстасаваннямі і засцежкамі. Пры маёй памяці такіх не сустракалася, а былі прамавугольныя або квадратныя. Папонамі, гунькамі накрывалі воз, сані, часам, калі патрэбна было, дык і каня. У багацейшых гунькі былі з воўны чыстай, а ў бяднейшых— з кужалю, а воўнай апошнія толькі ўпрыгожвалі. Вытканае палатно з шэрага льну фарбавалі часцей у чорны колер або іншы цёмны. Галоўнай фарбай была балотная гразь — «руда», яна фарбавала амаль у чорны колер, а больш канкрэтна — цёмна-карычневы, але больш схільны да чорнага. Зверху аздаблялі вышываным узорам, крыжыкам ці гладдзю, хто як умеў. Для вышывання карысталіся вялізнай іголкай, «грашоўка» называецца. А «грашоўка» таму, што за адзін грош купіць яе можна было. Іголка такая была вельмі зручная, бо пража з авечай ці казінай воўны была грубая. Воўну для ўзораў фарбавалі ў яркія колеры: чырвоны, сіні, зялёны, блакітны, жоўты, салатавы, маркоўны. Чаму яркія? Дык гунькі часцей прымянялі ў святочныя дні, у будні гуньку замяняла тканая простая посцілка «дзяруга». Бывала, што гуньку ўпрыгожвалі рознакаляровымі махрамі, якія аддзяляліся ад сярэдзіны беражком з вышываных крыжыкаў ці «козлікаў». Калі ехалі на кірмаш, у госці, у святочныя дні ці на вяселле папонай, гунькай накрывалі воз ці сані зімой, а як холадна было, то і каня. Вельмі прыгожае было відовішча, як перавозілі нявесту ў дом жаніха. На возе ці санях стаяў прыгожы маляваны або плецены з лазовых пруццяў куфар, конь упрыгожаны стужкамі і кветкамі з паперы, тканіны і нітак, бразгунамі, гунькай святочнай, яркай. Часам гунька таксама ўпрыгожвалася маленькімі бразгунчыкамі, іх было столькі, колькі дружбантаў у маладога. Люба глядзець было на такую прыгажосць. А як зазвоняць званочкі і бразгунчыкі, ажно душа спявае ад радсці, і нейкі смутак адначасова адольвае. Любуешся, на маладых гледзячы, і па сваёй маладосці смуткуеш.

Даўно Мальвіна Андрэеўна не можа ткаць, вышываць, непаслухмянымі сталі ў старасці рукі. Вось яшчэ карункі часам можа зрабіць, і то цяжка. Але якая яна цікавая субяседніца! Нядаўна Шапель падаравала Гродзенскаму дзяржаўнаму гісторыка-археалагічнаму музею некалькі старадаўніх прадметаў, выканаваных майстрыхай.

**(Заканчэнне на 8-й стар.)**

## МАНЕТА, ПРЫСВЕЧАНАЯ КУПАЛУ

Дай Божа, дажывём і да той часіны, калі юбілейныя манеты, прысвечаныя знакамітым людзям Бацькаўшчыны, пачне выпускаць Банк Рэспублікі Беларусь. Пакуль што такое права, як вядома, у Цэнтральнага банка Расійскай Федэрацыі. Балазе, права гэтае не супярэчыць абавязку, дадзенаму ранейшым банкам колішняга Савецкага Саюза, які планаваў выпусціць юбілейныя рублі, прысвечаныя 110-годдзю з дня нараджэння народных песняроў беларускага народа Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Купалаўскі рубель толькі што з'явіўся. Гэта манета, вырабленая з медна-нікелевага сплаву белага колеру дыяметрам 31 міліметр. Рэльефнае профільнае адлюстраванне песняра размешчана на адным баку рубля. Тут жа па баках партрэта стаяць даты «1882» і «1942», а ўнізе на фоне арнаменту надпіс: «Янка Купала».

А на другім — выява купалаў Пакроўскага сабора на фоне Спаскай вежы і двухгаловага арла, а таксама таварны знак «ЛМД». Што знак ёсць — зразумела, а астатняе...

Ды і прыдбаюць юбілейны рубель далёка не ўсе жадаючыя. Нават не з прычыны малога тыражу яго. Проста будзе ён прадавацца па калекцыйным кошце.

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




**11 ліпеня, субота**

# АНАТОЛЬ АНІКЕЙЧЫК

У яго быў кароткі, але шчаслівы творчы лёс. У 40 гадоў атрымаў званне народнага мастака Беларусі. Яму яшчэ заставалася 16 гадоў творчай працы, амаль ва ўсіх жанрах скульптуры. Яго працаздольнасць здзіўляла...

13-гадовы хлопчык з Барысава быў славутасцю горада, сапраўды—ляпіў ён многа, хутка і падобна. І калі падышла пара выбару, роздумаў не было—вядома ж, вучыцца «на скульптара». У 1953 годзе Анатоль Анікейчык трапіў у першы набор скульптурнага аддзялення Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. У першых партрэтах-вобразах Бетховена, Маякоўскага, Ф. Кастро, Чэ Гевары ён шукаў мастацкае ўвасабленне духоўнай моцы чалавека. Тады ж, у пачатку шляху, былі зроблены першыя партрэты Янкі Купалы. Яны былі псіхалагічнай падрыхтоўкай да стварэння помніка Я. Купалу. Ён аўтар надмагілля паэта, задуманага так, быццам вярнуўся стары паэт на згаданую зямлю, дакрануўся да яе босымі нагамі, спіць. Потым бюст паэта быў заказаны для Араў-парку, вядомага славянскага культурнага цэнтра ў Нью-Йорку.

У 1972 годзе, у дні святкавання юбілею—90-годдзя з дня нараджэння Купалы, у Мінску быў адкрыты скульптурна-прасторавы ансамбль. Працавала над ім група скульптараў і архітэктараў, Анікейчык быў мастацкім кіраўніком.

...Робіць крок, абапіраючыся на посах, паэт. Каля ног яго—папараць-кветка. Паводдаль — фантаны—дзве бронзавыя дзяўчыны кідаюць у ваду вянкі ў ноч на Івана Купалу. Старадаўнія народныя легенды—крыніцы, што жывяць паэзію, арганічна спалучаюцца з рэалістычным абліччам паэта. У роздуме аб лёсе народа прыпыніўся Купала... Праца ўдастоена Дзяржаўнай прэміі БССР.

Глыбінёй характарыстыкі вызначаюцца партрэты П. Машэрава, Л. Гідравічуса, Таццяны, маці, А. Ахматавай. Тэматычныя кампазіцыі «Вясна перамогі», «Сны пра Радзіму», М. Багдановіч, «Вершы» вабяць арыгінальнасцю вырашэння. Тонкія суадносіны партрэтнай скульптуры і сімволікі архітэктурнай формы выкарыстаны ў надмагіллях С. Прытыцкага, М. Лынькова, П. Машэрава. Рамантычнай прыўзнятасцю, пачуццём свету і гармоніяй адзначана скульптура для фантана «Юнацтва».

Помнік гераічнаму экіпажу М. Гастэлы ў Радашковічах, мемарыяльны комплекс «Прарыў» на Ушаччыне, мемарыяльныя знакі мінскаму падполлю і адкрыты да 40-годдзя Перамогі мемарыял «Праклён фашызму» ў Докшыцкім раёне раскрываюць тэму мужнасці і стойкасці народа перад тварам жорсткіх выпрабаванняў, развіваюць грамадзянскую лінію беларускай скульптуры.

**Л. ЛАПЦЭВІЧ.**

**14 ліпеня, аўторак**

# КУЛЬТ ВАДЫ

Нашы продкі здаўна пакланяліся рэкам, азёрам, крыніцам і студням, як гаворыцца ў летапісах, «...славяне вероваша кладзезем и рекам...». Знаходкі старажытных ралаў у балотах—сведкі ахвярапрынашэнняў магутным сілам вады пасля вясенняга ворыва, каб атрымаць высокі ўраджай. Вадзе ахвяравалі таксама каменныя сякеры, ежу, кветкі. Звычай кідаць у ваду манеты—адгалоскі былых ахвярапрынашэнняў вадаёмам.

Часта сустракаецца назва возера Святое. Як правіла, па берагах такіх азёр археолагі знаходзяць рэшткі старажытных паселішчаў, язычніцкія капішчы або культавыя валуны. Шырока вядома племяннoе капішча радзімічаў каля вёскі Хадосавічы Рагачоўскага раёна на беразе возера Святое.

У наш час яшчэ шырокай папулярнасцю карыстаюцца святыя крыніцы і студні, вада з якіх лічыцца лячэбнай. Часта побач з крыніцамі ўшаноўваюцца таксама валуны і дубы. У такіх месцах раней ставіліся крыжы або ўзводзіліся капліцы. На царкоўныя святы сюды ішлі людзі і неслі падарункі. Напрыклад, да студні каля вёскі Ізбішча Лагойскага раёна збіраліся на Тройцу, каля Маркава кляштара паблізу Віцебска—перад святам апосталаў Пятра і Паўла, на Юр'евай Горцы каля Віцебска—у дні святых Барыса і Глеба і г.д. Некаторыя студні і крыніцы вядомы пад назвамі Пятніцкая студня, Божы калодзеж, Гарадзецкі калодзеж, Князь-калодзеж. Турэцкая студня, крыніцы Заравец, Чорны Яр і інш.

Шмат існуе паданняў аб вадаёмах. Паблізу вёскі Навасады (Дзяржынскі раён), па паданню, у час навалы шведаў княжна скінула ў студню куфар з грашамі, а потым кінулася туды і сама, каб не трапіць у рукі ворагаў. У Тураве расказваюць, што студня там выкапана князем Турам і мае тры дны—залатое, сярэбранае і меднае. Калі прарвецца меднае, вада затопіць Тураў, сярэбранае—Тураўшчыну, а залатое—затопіцца ўся зямля.

**К. ДУЧЫЦ.**

# ЧЫРВОНАЙ ПАПОНАЙ САНІ ПАКРЫВАЛІ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

яшчэ на пачатку трыццатых гадоў нашага стагоддзя. Сярод іх — цудоўная «гунька», унікальны і рэдкі экспанат, якім можа пахваліцца не кожны з нашых музеяў. Быццам маладзейшай стала жанчына з добрай ласкавай усмешкай, калі пачула, як неабходныя былі б яшчэ для музея яе рэчы. Пашкадавала, што рукі хворыя, магла б яшчэ што-небудзь карыснае зрабіць.

Папоны на Гродзеншчыне былі не толькі з саматканага кужэльнага палатна і аздобленыя вышываным дэкорам.

У больш знатных і багацейшых сем'ях жанчыны ткалі папоны, выкарыстоўваючы складаную тэхніку ручнога ткацтва, прымянялі пражу з воўны дамашняй вытворчасці, пафарбаваны кужаль. Льняная пража магла быць і проста шэрай. Амаль заўсёды папона дапаўнялася махрамі ды кутасамі з фарбаванай воўны.

Больш простыя папоны выконваліся на дзвюх ці чатырох нічальніцах. Такія вырабы ўяўляюць сабой паласатыя ці клетчатыя тканіны. З падобных тканін выраблялі таксама матрасы-сеннікі. У больш даўнія часы, калі амаль кожны гаспадар меў свайго каня, а зімы былі надта марозныя ды снежныя, папона была проста неабходным прадметам. Клапатлівы гаспадар беражліва адносіўся да каня, у дрэннае надвор'е і святочныя дні абавязкова накрываў папонай. Па таму, як выглядаў і як быў прыбраны конь, меркавалі пра самога гаспадара. Летам, у цёплы сонечны дзянёк, адначасова з адзеннем папону прасушвалі і выветрывалі, потым зноў хавалі ў куфар, дзе быў прыемны водар мяты, рамонку, палыну і іншых траў, якія захоўвалі багацце куфра ад усялякіх грызуноў і молі.

Цяпер папона вельмі рэдкая рэч, якую часцей можна ўбачыць у клеці ці на гарышчы, чым на возе і кані. І вазоў стала меней, і коней. Простая папона, «гунька», а дакладней, посцілка, прыстасаваная для гэтай мэты, часам сустракаецца ў вёсках, а вось святочнай ці вясельнай — даўно не відаць. Ці можа мне проста не пашчасціла яе ўбачыць? У наш час і вясковае вяселле едзе на «Жыгулях» ці на «Волзе». А даўнейшыя вяселлі ды кірмашы — гэта ўжо гісторыя нашага краю. Нешта падобнае намагаюцца адрадзіць арганізатары свят народнай творчасці і фальклору, што становяцца традыцыйнымі ў некаторых раёнах Гродзеншчыны. Аднак гэта далёка не тое, што было ў даўнія часы.

**Валянціна ВОЛАХ.**



Чвэрць стагоддзя прарабіў токарам на Жабінкаўскім цукровым заводзе, што на Брэстчыне, Васіль Бабарыка. Выйшаўшы на пенсію, працягвае працаваць у саўгасе «Жабінкаўскі». Але рукі яго прывыклі мець справу не толькі з металам. Вольны час прысвячае Васіль Іосіфавіч рабоце з дрэвам, стварае вазы, пано, розныя кампазіцыі з мудрагелістых сучкоў і карчоў, выразае фігуркі звяркоў. Тэмы работ Бабарыкі навеяны матывамі наваколля. З творчасцю майстра знаёмы не толькі прыхільнікі народнага мастацтва ў Жабінцы, але і ў Брэсце, Мінску, дзе на выставах экспанаваліся вырабы, зробленыя яго рукамі.

НА ЗДЫМКУ: Васіль БАБАРЫКА знаёміць са сваімі работамі дзяцей Жабінкі.

**Фота Э. КАБЯКА.**

## СПОРТ

СТРАЛЬБА. «У Барселоне мне нішто не перашкодзіць паўтарыць сеульскі поспех», — лічыць алімпійская чэмпіёнка Ірына Шылава з Гродна. І як пацвярджэнне сказанаму — перамога беларускай спартсменкі на чэмпіянаце СНД, дзе яна была першай у практыкаванні МВ-5 і заваявала сярэбраны медаль у стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі.

ТЭНІС. Завяршыўся знакаміты Уімблдонскі турнір. Гонар Рэспублікі Беларусь абараняла на ім мінчанка Наталля Зверава. У пары з амерыканкай Дж. Фернандэс наша тэнісістка заняла першае месца.

ФУТБОЛ. Дэлегаты кангрэса ФІФА, які прайшоў у Цюрыху, прынялі рашэнне прадаставіць статус членаў гэтай арганізацыі футбольным федэрацыям Арменіі, Беларусі, Грузіі, Украіны, Расіі і іншых краін.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. На адкрытым чэмпіянаце Расіі сярод сляпых беларускія спартсмены ўстанавілі тры сусветныя рэкорды. Вось хто вызначыўся на гэтых спаборніцтвах: Алег Шэпель (скачкі ў вышыню і бег на 400 метраў) і Тамара Сівакова (у кіданні дыска).

ХАКЕЙ НА ТРАВЕ. Жаночая зборная Беларусі прыняла ўдзел у турніры «Кубак Літвы» і заняла там другое месца.

ВЕЛАСПОРТ. Сталіца Казахстана Алма-Ата стала месцам правядзення першынства СНД, якое стала адначасова і адборачным да Алімпіяды ў Барселоне. Зінаіда Стагурская, Ігар Пастуховіч і Ігар Паценка названы кандыдатамі на паездку ў Іспанію. У Казахстане яны ж сталі прызёрамі чэмпіянату Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1288.
Падпісана да друку 13.07.1992.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12